ПАГОНЯ

Чацвер
19 кастрычніка 2000 г.
№ 39 (486)
Кошт 70 рублёў

# Больш за палову гарадзенцаў байкатавалі выбарчы фарс. Толькі з дапамогай прымусу вертыкаль забяспечыла сабе патрэбны вынік

## Падлічылі - праслязіліся...

**Паводле папярэдніх афіцыйных дадзеных, колькасць тых, хто прыняў удзел у выбарах, па вобласці склала 68 працэнтаў. Выбары адбыліся ва ўсіх 13-ці акругах.**

Працэнт прагаласаваўшых па г.Гродна:

Гарадзенска-Занёманская акруга - 52,3 працэнта;

Гарадзенска-Цэнтральная акруга - 54,5 працэнта;

Гарадзенска-Паўночная акруга - 53,4 працэнта.

Звесткі, пададзеныя незалежнымі назіральнікамі, сведчаць пра зусім іншыя лічбы - 40-45 працэнтаў прагаласаваўшых у Гродне.

Лідска-Гарадская акруга - 50,3 працэнта.

За пяць дзён, прызначаных на датэрміновае галасаванне, прагаласавала па вобласці 16 працэнтаў, а па горадзе Гродна - 19,1 працэнта. Паводле нашай інфармацыі, колькасць датэрмінова прагаласаваўшых рэзка павялічылася ў пятніцу пасля абеду.

**Ул. інф.**

## Анатоль Пашкевіч хоча, каб выбары сталі яшчэ больш справядлівымі!

**Гарадзенскі гарвыканкам збіраецца ўнесці ў Цэнтральную камісію па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў прапановы наконт змянення формы бюлетэня і часу галасавання на выбарах.**

Справа ў тым, што па выніках першага тура галасавання больш чым па 2 тысячы бюлетэняў па гарадскіх выбарчых акругах былі прызнаны несапраўднымі: шэраг выбаршчыкаў, не разабраўшыся, дапусцілі памылкі пры іх запаўненні. Мяркуючы па ўсім, выявілася звычка выкрэсліваць прозвішчы кандыдатаў, што недаспадобы. Таму гарадзенскія ўлады прапаноўваюць праводзіць галасаванне, як раней - метадам выкрэслівання. Старшыня гарвыканкама Анатоль Пашкевіч таксама лічыць, што наяўнасць у бюлетэні графы «супраць усіх» з'яўляецца «элементам агітацыі ў самым бюлетэні».

Ёсць яшчэ адна прапанова - падоўжыць час галасавання і праводзіць яго з 7 да 22 гадзін. Гэта матывуецца тым, што 15 кастрычніка некаторыя выбаршчыкі прыходзілі на выбарчыя ўчасткі да 8 гадзін раніцы і пасля 8 вечара.

**Ася Куніцкая**

## Вячорка сумняваецца...

**Лідары беларускіх апазіцыйных партый, аб'яднаных у Каардынацыйную раду дэмакратычных сіл (КРДС), заявілі аб фальсіфікацыі вынікаў першага тура парламенцкіх выбараў. Аб гэтым было заяўлена на прайшоўшай 16 кастрычніка ў Менску ва ўправе БНФ прэс-канферэнцыі.**

Лідар Партыі БНФ Вінцук Вячорка быў вельмі здзіўлены афіцыйнымі вынікамі падліку галасоў выбаршчыкаў на Гродзеншчыне. Па ягоных звестках, 20 працэнтаў бюлетэняў там былі запоўнены да 15 кастрычніка. Ён назваў практыку папярэдняга галасавання «суцэльным злачынствам» і выказаў упэўненасць у несапраўднасці афіцыйных вынікаў такой працэдуры.

**Таццяна Папова**




**20, 21 кастрычніка** - воблачна, з праясненнямі, без ападкаў, вецер паўночна-ўсходні, 4-6 м/с. Тэмпература паветра **20 і 21 кастрычніка** - уначы +3...+5, удзень +11...+13.

У мінулую нядзелю, 15 кастрычніка, улада праводзіла сваю галоўную гульню года пад назвай «Выбары ў Палату прадстаўнікоў». Выбары, вынікі якіх адмаўляюцца прызнаць аўтарытэтныя міжнародныя арганізацыі, каштавалі беларусам чатыры мільярды рублёў.

У размовах ніхто з сябраў палітычных партыяў і арганізацыяў, што байкатавалі выбары, асабліва не сумняваўся (хаця патаемна і спадзяваўся на іншае) - улада «зробіць» вынік выбараў. Пойдзе на ўсё, каб паказаць «узровень грамадскай свядомасці» беларусаў.

Гарадзеншчына, якая заўсёды ламае розныя перадвыбарныя раскладкі, і памятная тым, што ў 1994 годзе падтрымала Пазьняка, была выбраная ўладай у якасці козыра. Які можна будзе час ад часу паказваць сабе для самазаспакаення і апазіцыі, маўляў, «а вы казалі заходнікі - Еўропа...». Гэта стала зразумела, калі вечарам у нядзелю па БТ жывыя ўключэнні з ЦВК пачыналіся словамі: «А вось у Гродне, на які рабіла стаўку апазіцыя, - выбары ўжо адбыліся».

Гарадзенскі губернатар Аляксандр Дубко заявіў у тэлеінтэрв'ю: «Гарадзеншчына заўсёды вызначалася непрадказальнасцю, але я ўпэўнены...». Паўзу, якая доўжылася імгненне, лёгка можна было запоўніць экспромтам, «што мы зрабілі ўсё належнае».

А зроблена было сапраўды ўсё патрэбнае для таго, каб колькасць тых, хто ўзяў удзел у выбарах па Гарадзеншчыне, перасягнула неабходныя 50 працэнтаў плюс адзін голас. Пачынаючы з аўторка, 10 кастрычніка, у ПАГОНЮ пачалі пастулаць тэлефанаванні ад абураных грамадзянаў, якіх начальства прымушала ісці на датэрміновае галасаванне. Некаторыя факты мы ўжо апублікавалі, аднак пік званкоў прыпаў на чацвер і пятніцу.

Званок з медуніверсітэта. Рэктар загадаў усім кафедрам «забяспечыць» студэнтаў на датэрміновае галасаванне. Паводле словаў тэлефанаваўшага, рэктар быў у паніцы: «Мяне ўжо амаль здымаюць з працы - сяльгас і універсітэт даўно прагаласавалі».

Акурат да месца званок з дзяржуніверсітэта. Намеснік дэкана гістфака «заклікае» студэнтаў: «Адстаём ад медыкаў і сяльгаса».

Інфармацыя з 25-й школы. У пятніцу заняткі былі па 25 хвілінаў, усіх выкладчыкаў адпускалі на датэрміновае галасаванне.

Паведамленне з Ашмянаў. У раёне праз школьнікаў ідзе агітацыя за Уладзіміра Вадзюшына. Шкалярам настаўнікі раздаюць улёткі, каб іхнія бацькі галасавалі за гэтага кандыдата. Начальнік ашмянскай арганізацыі «Раённыя электрычныя сеткі» Верамеевіч выступіў перад працоўнымі і загадаў, каб сёння прагаласавалі на сваіх участках. У выпадку няўдзелу ў выбарах будуць прынятыя меры па пакаранні.




Званок з выбарчага ўчастка. Смех у слухаўцы. Прыйшоў малады АМАПавец. Хоча прагаласаваць. Пытаюцца: чаму датэрмінова. Адказвае: «Загадалі абавязкова прагаласаваць».

Тэлефануем самі ў першы райаддзел міліцыі, што нам патрапіўся. Пытанне гучыць наўпрост: «Чаму дазваляеце прымусовае галасаванне ў рэгіёне?». Адказ, на дзіва, шчыры: «Адчапіцеся вы ад нас! Мы самі павінны штогадзіну паведамляць колькасць прагаласаваўшых датэрмінова супрацоўнікаў».

Званок з 9-й школы. У суботу ў школе адмененыя заняткі. У будынку школы знаходзіцца выбарчы ўчастак.

2-я гарбальніца. Галоўны ўрач зняў з практыкі студэнтаў 6 курса і адправіў на выбарчы ўчастак. Потым з дзяжурства з гэтай жа мэтаю былі знятыя ўрачы і медсёстры.

Інфармацыя, якую праверыць не ўдаецца. У раддом паступіла жанчына. У палату прыносяць скрынку для галасавання. Размова кароткая: «Я прыехала сюды раджаць, а не галасаваць». «Хочаш нармальна нарадзіць - галасуй!».

Тэлефануюць з 14-й крамы на Дамброўскага і Шклозавода, вучылішча N225, аб'яднання «Хімвалакно», аблтэлекама, завода карданных валаў і г.д.

Паводле афіцыйных дадзеных, па вобласці датэрмінова прагаласавала 16 працэнтаў выбаршчыкаў, па Гродне - 19,1 працэнта. Нават ў Чачні, дзе ідзе вайна і людзі не маюць сталага месца жыхарства, датэрмінова прагаласавала каля аднаго працэнта.

ПАГОНІ ўдалося атрымаць копію загаду, тэкст якога здымае ўсе пытанні з «самых дэмакратычных выбараў».

Загад - ад начальніка праектна-рамонтнага аб'яднання «Гродааблдорбуд», і адрасаваны ён начальнікам падведамасных арганізацыяў: «Прашу забяспечыць 100-працэнтны ўдзел сваіх работнікаў у выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу РБ і быць на рабочым месцы 15.10.2000 года. Аб выкананні дадзенага ліста дакласці мне асабіста 16.10.2000 года да 10 гадзін раніцы».

Няма сумневу, што падобныя загады з'явіліся і ў многіх іншых арганізацыях.

Уладам давялося прызнаць, што старшыня Ашмянскага райвыканкама Вітольд Кудырка таксама разаслаў ва ўсе падуладныя ўстановы загад забяспечыць яўку на выбары. Кіраўніцтва вобласці нават пакарала яго вымовай. Хаця ў праваабарончым цэнтры «Вясна-96» паведамілі, што ініцыятыва Кудыркі падлягае крымінальнай адказнасці.

У нядзелю ўразіла інфармацыя, што выбары ў Лідска-Сельскай акрузе адбыліся ўжо ў 12 гадзін. Сцэнар быў просты. Па Закону, для таго, каб выклікаць скрынку на дом, трэба заранёў папярэдзіць выбарчую камісію. Аднак замест таго, каб задаволіць 20-30 пададзеных просьбаў, камісія аб'язджала ўсе неабходныя вёскі, чым і забяспечыла амаль 100-працэнтную яўку. І ў гадзіну дня ўжо разлівала ў чаркі.

Участак N8, 14-я школа. Пасля 18 гадзін для «кворума» не хапала 300 галасоў. Адрасы даваліся міліцыянтам, тыя ездзілі па хатах і «выганялі» людзей на ўчасткі.

Інтэрнат БМУ па вул. Шчорса,50. Сябры камісіі хадзілі ўвечары па пакоях, прымушалі галасаваць.

Інтэрнат «Азота», II-і завулак Белуша. Тут шчыравала адміністрацыя прадпрыемства . «Не ведаю, што з вамі будзе, калі не пойдзеце галасаваць».

Камендант інтэрната N1 медуніверсітэта Крысціна Рвачова прымушала жыхароў інтэрната ісці на выбары. Пагражала звальненнем з працы.

Інтэрнат аўтапарка N1, вул. Лідская, 29а. На вахце - прадстаўнік адміністрацыі аўтакамбіната. «Заклікае» галасаваць пад пагрозай высялення з інтэрната.

У 21.20 старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына абвесціла, што ва ўсіх 13 акругах Гарадзеншчыны выбары адбыліся. Хаця, як стане вядома пазней, яшчэ доўгі час не было зразумела, ці адбыліся выбары ў Лідзе - 50,3 працэнта, паводле афіцыйных дадзеных.

**Ул. інф.**

## Выбары? Не - Вы-рабы!

**Гэта прадэманстравалі гарадзенскія ўлады ў адносінах да выбаршчыкаў Гродна падчас кампаніі «выбары ў палату».**

Як утрымаць уладу, калі яна можа быць страчана? Можна паспрабаваць дагадзіць выбаршчыкам, купіць іх абяцанкамі, падманам. Але падмануць можна раз, другі, а на трэці ніхто ўжо не паверыць. Гэты рэсурс сённяшняй уладай ужо цалкам вычарпаны. Пустыя абяцанкі Лукашэнкі, якія ён шчодра раздаваў беларускім выбаршчыкам на працягу шасці гадоў, у большасці гарадзенцаў не выклікаюць даверу. І на фоне шырока разгорнутай інфармацыйнай кампаніі апазіцыі па байкоту выбараў была рэальная пагроза для «вертыкалі» не выканаць загад з Менску наконт паспяховага правядзення ў палату патрэбных уладзе асобаў. А наяўнасць грамадскіх назіральнікаў на большасці выбарчых участкаў горада памяншала магчымасці для татальнай фальсіфікацыі вынікаў галасавання. Таму для забеспячэння яўкі выбаршчыкаў любой цаной гэтым разам гарадзенскія ўлады выкарысталі апошні адміністрацыйны рэсурс - СТРАХ.

Націснуць, запалохаць, прыдушыць, але пагнаць гарадзенцаў галасаваць - такія інструкцыі атрымлівалі кіраўнікі ўсіх узроўняў у гар- і аблвыканкаме. І яны ціснулі, палохалі, прымушалі. Такога ўціску і прымусу з боку адміністрацыяў прадпрыемстваў і ўстановаў гарадзенцы яшчэ не сустракалі. Асабліва жорсткаму ўціску і шантажу падвергліся найменш абароненыя: студэнцкая моладзь і жыхары працоўных інтэрнатаў.

Улады «ВЫРАБІЛІ» патрэбныя ім вынікі. І што? Па ўчастках з інтэрнатамі, дзе раней ніколі не адбываліся выбары, усімі гэтымі тытанічнымі намаганнямі ледзь-ледзь удалося «выціснуць» патрэбныя 50 працэнтаў. Гэта азначае, што палова гарадзенцаў (!) не паддалася шантажу і не прыняла ўдзелу ў фарсе.

А многія з тых, каго прымусілі ісці - псавалі бюлетэні і выкрэслівалі ўсіх у знак ціхага пратэсту супраць такога гвалту. Па 53-й акрузе, да прыкладу, такіх бюлетэняў было амаль дзве з паловай тысячы.

Чаго дамагліся гарадзенскія ўлады гэтымі сваімі «выбарамі»? Нічога добрага для сябе. Яны прадэманстравалі ўсім, хто яшчэ сумняваўся, якая гэта ўлада. Яны настроілі супраць кіраўніцтва прадпрыемстваў і ўстановаў людзей. І нарэшце, яны прымусілі сярэдняе адміністрацыйнае звяно масава ўчыніць крымінальнае злачынства.

Для тых, хто не ведае, нагадваем, што па закону Рэспублікі Беларусь «выбары з'яўляюцца свабоднымі; выбаршчык...асабіста вырашае, ці ўдзельнічаць яму ў выбарах,.. за каго галасаваць на выбарах» (артыкул 65 Канстытуцыі РБ і артыкул 5 Выбарчага Кодэкса). А «асобы, якія перашкаджаюць шляхам насілля, пагрозаў, падману, подкупу ці іншым чынам свабоднаму ажыццяўленню грамадзянінам Рэспублікі Беларусь права ўдзельнічаць ці не ўдзельнічаць у выбарах,.. нясуць адказнасць...» (артыкул 49 Выбарчага Кодэкса).

**Сяргей Мальчык,
старшыня Гарадзенскай Рады БНФ
«Адраджэньне»**

**P.S.Просім гарадзенцаў пра факты прымусу з боку службовых асобаў падчас галасавання паведамляць па адрасе: вуліца К.Маркса,11, офіс БНФ «Адраджэньне».**

# Міліцыянтаў стане больш

**Міністр унутраных спраў Беларусі абверг чуткі аб скарачэнні міліцыі. Генерал-маёр міліцыі Уладзімір Навумаў зрабіў гэтую заяву 11 кастрычніка ў Гродне падчас аператыўнай нарады па выніках работы органаў унутраных спраў Гарадзенскай вобласці за 9 месяцаў гэтага года.**

Ён заявіў, што скарачэнне закране толькі апарат МУС і некаторыя не ўласцівыя Міністэрству ўнутраных спраў функцыі. Штаты ж раённых аддзелаў міліцыі, мяркуючы па ўсім, насупраць, узрастуць. «Я буду рабіць максімум для таго, каб там яшчэ павялічыць, наколькі гэта будзе магчыма, колькасць асабовага саставу», - заявіў Навумаў. Ён таксама паведаміў, што ў бліжэйшыя дні на месцы прыйдуць прапановы па новаму бачанню штатаў структур крымінальнага вышуку, грамадскага парадку, спецыяльнай міліцыі, і выказаў надзею, што пасля абмеркавання, да канца снежня, новая арганізацыйна-штатная пабудова МУС будзе прынята. Напярэдадні міністр наведаў Слонімскі ГРАУС, Зэльвенскі РАУС, участак дарожнай міліцыі Ваўкавыскага РАУС і стацыянарны пост ДАІ у Гарадзенскім раёне. Мэтай паездкі было знаёмства з работай і асабовым саставам міліцэйскіх падраздзяленняў.

Гарадзеншчына стала першым рэгіёнам, у які Навумаў прыехаў пасля прызначэння 25 верасня на новую пасаду. Наведванне гэтай вобласці не было выпадковым. Міністр сказаў, што лічыў і лічыць гэты рэгіён адным са стабільных у Беларусі, дзе прадпрымаюцца меры па навядзенню парадку.

**Ася Куніцкая**

# Што чакае пасля «міру»?

**На мінулым тыдні супрацоўнікамі міліцыі затрыманыя актывісты Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі Юрый Раманчук і Андрэй Максімчык, якія распаўсюджвалі ўлёткі, што заклікалі да байкоту выбараў.**

Паводле сведчанняў саміх АГПістаў, міліцыя ставілася да іх вельмі карэктна і прыстойна. Аднак яны баяцца далейшага пераследу з боку ўладаў. Тым больш, што ў іх ёсць прыкры досвед.

Як бы там ні было, абвешчаны Лукашэнкам так званы «перадвыбарны перыяд міру» ўжо скончыўся. Так што тэма выбараў хутка сапраўды можа пакінуць цікавіць замежныя ўстановы і ўсё вернецца на «месца».

**Ул. інф.**

# Ёсць яшчэ порах...

**16 кастрычніка ў адпаведнасці з планам падрыхтоўкі Узброеных Сіл на Гожскім палігоне пад Гроднам пачаліся адны з найбуйнейшых сёлета вучэнняў са злучэннем беларускага войска - тактычныя вучэнні 6-й асобнай механізаванай брыгады з баявой стральбой. Кіруе вучэннямі камандзір 28-га армейскага корпусу генерал-маёр Сяргей Гурулёў.**

Як паведамілі ў прэс-службе Міністэрства абароны, асноўнай мэтай вучэнняў з'яўляецца ўдасканальванне практычных навыкаў камандзіраў, штабоў у планаванні і арганізацыі баявых дзеянняў, у кіраванні часцямі і падраздзяленнямі ў абарончым баі. Падчас вучэнняў баявыя стрэльбы праводзяць мотастралковыя, танкавыя, артылерыйскія, зенітна-ракетныя і агнямётныя падраздзяленні.

Тактычныя вучэнні 6-й асобнай механізаванай брыгады завершацца 20 кастрычніка.

**Вячаслаў Будкевіч**

# Змаганне за дзяржаўнасць

**Заўтра ў Беластоку пачнецца канферэнцыя на тэму «Змаганне за беларускую дзяржаўнасць у XX стагоддзі». Канферэнцыя, арганізаваная Беларускім Гістарычным Таварыствам, будзе доўжыцца два дні і скончыцца 21 кастрычніка.**

Сярод галоўных тэмаў - беларуская нацыянальная ідэя, БНР, савецкая акупацыя, спробы дзяржаўнага будаўніцтва ў найноўшы перыяд.

Удзел у канферэнцыі возьмуць і гарадзенскія навукоўцы - Алесь Смалянчук, Сяргей Токць, Эдуард Мазько, Сяргей Сноп, Сяргей Піваварчык.

**Ул. інф.**

# Заява Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**15 кастрычніка ў Беларусі скончыўся першы акт сацыяльнай трагікамедыі пад назвай выбары ў так званы Нацыянальны Сход, які з'яўляецца кішэнным органам дыктатара. Я ўжо неадназова заяўляў, што так званыя выбары не могуць лічыцца легітымнымі з самага пачатку.**

Па-першае, яны прызначаныя ў парушэнне Канстытуцыі і заканадаўства Рэспублікі Беларусь дыктатарам, тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў якога скончыўся больш як год таму, і супраць рэжыму якога распачата і вядзецца крымінальная справа па факце захопу ўлады неканстытуцыйным шляхам.

Па-другое, названае вышэй «мерапрыемства» даручана праводзіць групе асобаў, якія былі прызначаныя на пасады яшчэ напярэдадні так званага лістападаўскага (1996 г.) рэферэндума ўсё тым жа дыктатарам у абыход усіх прававых нарматываў.

Па-трэцяе, дыктатарскім рэжымам была сарвана падрыхтоўка да трохбаковых перамоваў і не выканана амаль ніводная з чатырох дамоваў заключанага Пагаднення, што здолелі б забяспечыць правядзенне свабодных дэмакратычных выбараў у парламент, які б валодаў хаця б нейкімі рэальнымі заканадаўчымі функцыямі.

Як і трэба было чакаць, з грубымі парушэннямі (у тым ліку і з фальсіфікацыяй яго вынікаў) прайшло і само галасаванне, што зафіксавана многімі грамадскімі назіральнікамі і прадстаўнікамі Міжнароднай тэхнічнай місіі.

Разам з тым, галасаванне паказала, што дыктатарскі рэжым ужо не мае падтрымкі народа, маральна зняважанага і даведзенага да галечы, які па сутнасці праігнараваў так званыя выбары, нягледзячы на падман, подкуп і пагрозы з боку дыктатарскага рэжыму.

Усё гэта і дало падставу Злучаным Штатам Амерыкі, а пасля і прадстаўнікам міжнародных арганізацыяў даць узгаданаму фарсу, які не мае нічога агульнага з сапраўднымі свабоднымі дэмакратычнымі выбарамі, аб'ектыўную ацэнку. І толькі расейскія шавіністычныя колы засталіся задаволенымі гэткім глумленнем над дэмакратыяй і здзекамі з беларускага народа. Прычым, пры ацэнцы так званых выбараў і гэтым разам адкрыта аб'ядналіся прадстаўнікі ФСБ, што захапілі ўладу, з самымі цёмнымі камуністычнымі сіламі, да якіх належыць і сам беларускі дыктатар.

Мяркую, што вышэйзгаданы фарс стаў павучальным урокам і для тых, хто праігнараваў рашэнні Кангрэса дэмакратычных сілаў пра няўдзел апазіцыйных дыктатарскаму рэжыму структураў у праводзімых ім мерапрыемствах, скіраваных на яго легітымізацыю, і прыняў удзел у так званых парламенцкіх выбарах.

Нельга не адзначыць і тое, што, аналізуючы падрыхтоўку і правядзенне так званых выбараў, некаторыя журналісты - прадстаўнікі незалежных СМІ, таксама чамусьці працягваюць называць дыктатара і ўзурпатара ўлады ў Беларусі прэзідэнтам, а Ярмошыну - старшынёй Цэнтрвыбаркама і забываюцца пры гэтым нават узгадаць, што названая асоба ў парушэнне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь з дапамогай грубай сілы пасаджаная на месца, якое законна належыць Віктару Ганчару, што знік, як і некаторыя іншыя вядомыя ў рэспубліцы палітычныя дзеячы, бізнесоўцы і журналісты.

Падзеі, што адбыліся ў Беларусі, звязаныя з так званымі выбарамі, яшчэ раз яскрава паказалі, што без адхілення ад улады па сваіму складу і паводзінах прарасейскага, шавіністычнага, у дачыненні да беларускага народа па сутнасці акупацыйнага, дыктатарскага рэжыму, што незаконна ўтрымлівае ўладу, нельга правесці ніякіх свабодных дэмакратычных выбараў. Бо дыктатар і яго паплечнікі, якія здзейснілі за гэтыя гады цэлы шэраг злачынстваў, а таксама расейскія шавіністычныя колы, што іх падтрымліваюць, не пойдуць ні на якія пазітыўныя змены. Для іх вяртанне Беларусі на дэмакратычны шлях развіцця раўназначна смерці.

Таму з дадзенага становішча ёсць толькі адно законнае выйсце: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, як адзіны легітымны заканадаўчы і вышэйшы прадстаўнічы ў краіне орган, што зноў пацвердзілі прадстаўнікі міжнародных арганізацыяў, павінен неадкладна сфармаваць Часовы ўрад нацыянальнага даверу, які б замяніў збанкрутаваўшую незаконную групу асобаў, што працуе на ліквідацыю незалежнасці Беларусі. Часовы ўрад разам з Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь арганізаваў бы сапраўды свабодныя дэмакратычныя выбары як парламента, так і прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Са свайго боку, як Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, я гатовы, згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, узяць на сябе ўсю адказнасць і распачаць перамовы з усімі зацікаўленымі сіламі дзеля захавання незалежнасці Беларусі і вяртання яе на дэмакратычны шлях развіцця.

Спадзяюся на больш цеснае згуртаванне і падтрымку ў гэтым накірунку ўсіх дэмакратычных партыяў і рухаў, мудрасць нашага беларускага народа. Адначасова хачу звярнуцца і да тых, хто па тых ці іншых абставінах быў уцягнуты ў дыктатарскія структуры і сёння асэнсаваў сваю памылку, вярнуцца да актыўнай дзейнасці па перабудове грамадскага жыцця на новых дэмакратычных умовах.

Спадзяюся і на паразуменне міжнародных арганізацыяў, парламентаў і кіраўнікоў усіх дэмакратычных краінаў і звяртаюся да іх з просьбай не пакінуць у бядзе шматпакутны беларускі народ, дапамагчы яму пазбавіцца ад прагніўшага, у адносінах да Беларусі акупацыйнага, дыктатарскага рэжыму, які грэбуе нормамі паводзінаў, што ўсталяваліся ў цывілізаваным свеце, і ўяўляе сабою небяспеку стабільнасці і міру ў рэгіёне.

**Сямён Шарэцкі,**
**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**17 кастрычніка 2000 года**

# ПАГОНЯ ўключаецца ў выбары!

**Цяпер, калі стала вядома, што восеньскія парламенцкія выбары - гэта такі прыкол, чарговая праява іскрыстага беларускага нацыянальнага гумару, супрацоўнікі ПАГОНІ таксама вырашылі прыняць удзел у гэтым вясёлым фестывалі. Бо хто, як не мы, можа лічыцца заўзятымі прыхільнікамі жартаў, сатыры, добрых народных досціпаў! Нельга стаяць убаку, калі наш народ так шчыра весяліцца!**




Таму ПАГОНЯ таксама вылучае ў народныя дэпутаты сваіх лепшых прадстаўнікоў. Гэта заслужаная майстры карнавала і дзеячы маскараду Міхась Капялюш і Альфрэд Хокхіч. Нашыя калегі будуць балатавацца на адно дэпутацкае месца, але разам, у непарушным звязе аднадумцаў, што будзе жыватворна спрыяць развіццю нашай маладой, але непахіснай дэмакратыі.

Што прапануюць электарату дзве такія магутныя постаці айчыннай індустрыі смеху? Прапануем асноўныя тэзісы выбарчай праграмы кандыдатаў на пасаду дэпутата ад працоўнага калектыва газеты ПАГОНЯ.

- Падвышэння ўзроўню жыцця мы дасягнем праз выпуск танных грошай на старонках кожнай газеты. Падпіска на СМІ стане ўсеагульнай, як і ўдзел народа ў жыцці краіны;

- зніжэння цэнаў на тавары дасягнем шляхам змяншэння выдаткаў прадпрыемстваў і калгасаў на заробкі. Тавары стануць нарэшце даступнымі для народа;

- дасягнем поўнай бясплатнасці медыцыны і адукацыі для дзяржавы;

- пераможам карупцыю шляхам утварэння шляхецтва для ўсіх чыноўнікаў з надзяленнем іх сядзібамі, прыгоннымі, сямейнымі фірмамі, транспартнымі сродкамі ды персанальнымі рахункамі ў швейцарскіх банках з правам перадачы ў спадчыну;

- прымем закон аб збудаванні падземнага пераходу на вуліцы Траецкай для бяспечнага праходжання гарадзенцаў ў магазін менскага завода «Крышталь»;

- інтэгруем нашу краіну ў якасці асноўнага акцыянера з кантрольным пакетам акцыяў ў канцэрн «Газпрам»;

- чарговыя «Дажынкі» правядзем на лецішчы бабы Мані з садаводчага таварыства «Цыбуліна».

Нашыя кандыдаты адкрытыя для народа, таму ПАГОНЯ чакае Вашых прапановаў, паважаны электарат. Разам мы добра пазабаўляемся...

# Гэтым разам Еўропу не падманулі

**Парламенцкая «тройка», якая прадстаўляе парламенцкія асамблеі АБСЕ, Савета Еўропы і Еўрапарламент, прыняла да ведама вывады Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) аб неадпаведнасці выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь міжнародным стандартам. Пра гэта гаворыцца ў справаздачы парламенцкай «тройкі», якая была распаўсюджана раніцай 16 кастрычніка кансультатыўна-назіральнай групай АБСЕ ў Беларусі.**

У гэтым дакуменце гаворыцца, што парламенцкая «тройка» прыняла да ведама наступныя вывады, прадстаўленыя БДІПЧ АБСЕ: «Выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 15 кастрычніка 2000 года не адпавядалі міжнародным стандартам, якія прад'яўляюцца да дэмакратычных выбараў, а таксама патрабаванням, сфармуляваным у Капенгагенскім дакуменце АБСЕ 1990 года. У прыватнасці, не былі выкананы мінімальныя абавязацельствы па правядзенню свабодных, справядлівых, роўных, падсправаздачных і адкрытых выбараў. Нягледзячы на дасягненне некаторага прагрэсу ў параўнанні з папярэднімі выбарамі, усё яшчэ існуюць пэўныя недахопы ў правядзенні выбарчага працэсу». У дакуменце таксама ўказваецца, што ў адпаведнасці з рашэннем трэцяй тэхнічнай канферэнцыі па Беларусі, якая прайшла 30 жніўня ў Вене, БДІПЧ АБСЕ прыняло рашэнне накіраваць на выбары толькі місію па тэхнічнай ацэнцы. Гэта звязана з тым, што «палажэнні аб папярэднім галасаванні, пераносных скрынях для галасавання, правілах падліку і абагульнення вынікаў галасавання далёка не адпавядалі мінімальным патрабаванням адкрытасці, неабходным для ажыццяўлення незалежнай праверкі. БДІПЧ адмовілася накіраваць сваіх назіральнікаў на ўчасткі ў дзень выбараў. Нават бездакорная арганізацыя галасавання ў дзень выбараў не змажа выправіць вышэйпаказаныя недахопы».

Сярод іншых прычын, якія тлумачаць неадпаведнасць гэтых выбараў мінімальным міжнародным патрабаванням, называецца неадэкаласць заканадаўства аб выбарах. Як адзначаецца, яно хаця і палепшана, але тым не менш утрымлівае істотныя недахопы. У дакуменце, распаўсюджаным КНГ АБСЕ, называецца шэраг фактараў, якія перашкодзілі выбарчаму працэсу быць дэмакратычным. Гэта, у прыватнасці, ажыццяўленне выканаўчай уладай кантролю за работай выбарчых камісій. Злоўжыванне працэдурай рэгістрацыі кандыдатаў дазволіла выключыць непажаданых прэтэндэнтаў з перадвыбарнай барацьбы, што абмежавала свабоду выбару выбаршчыкаў. Жорсткае рэгуляванне перадвыбарнай кампаніі кандыдатаў таксама абмежавала магчымасць яе правядзення.

**Уладзімір Глод**

# Сонца, вецер і...біямаса

**З 11 па 13 кастрычніка ў Гродне адбывалася Міжнародная навукова-тэхнічная канферэнцыя «Рэсурсазберагальныя экатэхналогіі: узнаўленне і эканомія энергіі, сыравіны і матэрыялаў». Адным з яе арганізатараў быў і Інстытут рэсурсазберажэння АН РБ, які знаходзіцца ў Гродне. Форум, апрача беларускіх навукоўцаў, сабраў разпрацоўшчыкаў з Расеі, Эстоніі, Латвіі, Польшчы ды іншых краінаў. Адных дакладаў для прачытання ў секцыях было пададзена болей за 150, плюс недзе паўсотні - змешчана на стэндах.**

Праблемы рацыянальнага выкарыстання сыравіны і энергіі набываюць усё большую актуальнасць ва ўсім свеце. Напрыклад, у Японіі на гэтыя мэты ідзе да 10 працэнтаў нацыянальнага бюджэту. Пра тое, наколькі марнатраўна ў тратах энергіі ды іншых рэсурсаў наша айчынная вытворчасць, сведчыць ужо тое, што вырабленыя ў Беларусі тавары не вытрымліваюць канкурэнцыі па цэнах з замежнымі, нават нягледзячы на амаль бясплатную рабочую сілу. У накірунку іх зніжэння працуюць інстытуты, лабараторыі, асобныя навукоўцы. На жаль, да ўвасаблення на практыцы - з-за беднасці нашай эканомікі - не даходзіць вельмі многае. «У нас практычна няма рэцыклінгу і перапрацоўкі адходаў», - зрабіў выснову кіраўнік Інстытута рэсурсазберажэння Анатоль Свірыдзёнак у сваім уступным дакладзе. Канцэрн «Белрэсурсы» практычна ўхіліўся ад вырашэння гэтай праблемы. Праграма рэсурсазберажэння выконваецца, паводле словаў прафесара, толькі на 24 працэнты. Даўно падрыхтаваны прафесіяналамі закон «Аб аптымізацыі рэсурсазберажэння і рэсурсаспажывання» яшчэ нават не разглядаўся заканадаўцамі.

Больш аптымістычная сітуацыя з энергазберажэннем. Кіраўнік Дзяржкамітэта па энергазберажэнні Леў Дубавік агучыў цікавыя дадзеныя. Выяўляецца, электраэнергіі Беларусь выпрацоўвае з лішкам, таму гатовая прадаваць яе суседнім краінам. Дарэчы, частка яе і зараз прадаецца ў Германію. (Не зусім зразумела ў сувязі з гэтым, навошта мы купляем яе ў Літвы? - заўв. рэд.). Хапае ў нас і цеплавых кацельняў. Аднак, улічваючы вартасць паліва (а для краіны яно абыходзіцца ў два мільярды даляраў у год), эканомія неабходна. «Мы маглі б узводзіць будынкі, спажыванне цяпла ў якіх, у параўнанні з сучаснымі, было б меней у шэсць разоў», - заявіў спадар Дубавік. І наогул у Камітэта, які ён узначальвае, ёсць смелыя намеры знізіць спажыванне энергарэсурсаў на 50 працэнтаў. Сярод перспектыўных праектаў па энергазберажэнні, гатовых фінансаваць Камітэт, - вырошчванне біямасы (рапса) для выкарыстання ў атрыманні энергіі на тэрыторыі Гарадзенскай вобласці, выкарыстанне высокіх тэмператураў прамысловых сцёкаў Гарадзенскага ПА «Азот». У гэтым годзе маюць намер усталяваць ветраўстаноўку айчыннай вытворчасці на 250 кВт, прыстасаваную пад хуткасць ветру 8 кіламетраў на гадзіну ды інш. З нетрадыцыйных крыніцаў энергіі спадар Дубавік найбольш перспектыўнымі назваў «сонца плюс біямаса» і «сонца плюс вецер».

**Ніна Палуцкая**

# «Азот» выклікае трывогу

**Спецыялісты праматамнагляду пацвердзілі выбухованебяспечнасць гарадзенскага вытворчага аб'яднання «Азот». Гэта высветлілася падчас чарговай праверкі дзяржаўнай камісіяй у складзе 25 чалавек.**

Асаблівая выбухованебяспечнасць аб'екта абумоўлена вядзеннем тэхналагічных працэсаў пад высокім ціскам, прымяненнем, атрыманнем і захоўваннем у вялікіх аб'ёмах прадуктаў з высокімі выбуховапажаранебяспечнымі ўласцівасцямі, у ліку якіх прыродны газ, бензол, цыклагексанол, метанол ды іншыя. Найбольшую небяспеку ўяўляюць два цэхі па вытворчасці цыклагексанолу і два - па вытворчасці аміяку. Пры надзвычайнай сітуацыі і максімальна моцным выбуху, напрыклад, парапаветранай сумесі, магчыма поўнае разбурэнне абсталявання і збудаванняў у радыусе 100 метраў. Выкіды аміяку са сховішчаў і ягоных выпарэнні ў выніку аварыі могуць распаўсюдзіцца не толькі ў рысе горада, але ў радыусе 20 кіламетраў.

**Ася Куніцкая**



„Все патрэбнасти прастова чалавека удавлетварэны."

# Як Адольф Зацэпін перамог адміністрацыю...

**Адольфа Зацэпіна, лідара Свабоднага прафсаюза тонкасуконнага камбіната, адміністрацыя прадпрыемства задумала звольніць з працы. Аднак Адольф здолеў праз суд абараніць свае правы і прымусіў адміністрацыю камбіната выплаціць яму 100 тысяч рублёў.**

Як кажа сам спадар Зацэпін, існаваў нават неафіцыйны загад тагачаснага дырэктара камбіната Уладзіміра Крупніна (які дарэчы амаль паўтара месяца таму скончыў жыццё самагубствам) злапаць яго на нейкім парушэнні, каб была падстава для звальнення.

І вось 25 траўня бягучага года вартаўнік на прахадной камбіната склаў на Адольфа Зацэпіна дакладную: маўляў, той пакінуў месца працы раней прызначанага часу на 2 (!) хвіліны.

Адміністрацыя прадпрыемства адрэагавала неадкладна. 31 траўня быў выдадзены загад за нумарам 151, якім на Зацэпіна накладалася спагнанне ў выглядзе «заўвагі».

Лідару прафсаюза давялося самому шукаць сведкаў сваёй невінаватасці. Восем ягоных калег падпісаліся пад лістом, што выходзілі з працы разам з Зацэпіным у належны час.

Аднак адміністрацыя прадпрыемства праігнаравала гэтыя сведчанні.

Тады Адольф Зацэпін запатрабаваў ад адміністрацыі копію загаду, прачакаў яе 1,5 (!) месяца і звярнуўся з грамадзянскім спазыскам проста ў суд, патрабуючы адмены несправядлівага загаду і спагнання з адміністрацыі 500 тысяч рублёў за несвоечасовае выданне копіі загаду.

Суд цягнуўся тры месяцы, і ў выніку стаў на бок закону.

11 кастрычніка 2000 года суддзя Ленінскага райсуда Мікалай Пракопчык прыняў рашэнне змяніць загад адміністрацыі N151 ад 31 траўня і выплаціць Адольфу Зацэпіну з касы прадпрыемства 100 тысяч рублёў адшкадавання.

Для Адольфа, які зарабляў да апошняга часу 34 тысячы ў месяц, гэта, безумоўна, значная сума. На пытанне - што ён зробіць з грашыма - спадар Зацэпін адказаў: «Частку аддам на прафсаюзную дзейнасць».

Справа нават не ў грошах. Грамадзянін Беларусі абараніў свой гонар, абараніў сваё імя, абараніў свае правы называцца чалавекам. Сёння тое, што ў цывілізаваных краінах ёсць норма жыцця, у нас па-ранейшаму называюць перамогай.

**Павал Мажэйка**

# Чыноўнікі з водаканалу жыруюць за кошт пенсіянераў

**Гарадзенскі водаканал (Прадпрыемства водаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі) вырашыў даканаць нямоглых пенсіянераў прыватнага сектару, выставіўшы ім рахункі да аплаты за фантастычныя кубаметры ўяўна выкарыстанай халоднай вады. Спецы ад водаканальнай арыфметыкі матывуюць свае драконаўскія дзеянні сталай і непамернай уцечкай самай неабходнай для жыццядзеяння вадкасці. Дык куды ж яна цячэ?**

Да 1992 года водаканалам для жыхароў прыватнага сектару была ўстаноўлена норма ўжывання халоднай вады на чалавека 50 літраў у дзень. Налічвалі яшчэ пяць літраў на квадратны метр агарода за 76 дзён паліўкі. З 1992 года проста сталі прысылаць рахунак да аплаты за год без указання ўсялякіх нормаў.

## Пераплюнулі Эўкліда з Лабачэўскім

З 1999 года, калі водаканальшчыкі ўзялі за моду ўстаўляць у шчыліны ў плотах прыватнікаў квітанцыі з паквартальнай аплатай за халодную ваду. Паводле спецоў водаканалу, сям'я з трох чалавек у першым квартале 1999 года выліла 14 кубаметраў, а праз год - ужо 17 кубаметраў вады. Затое, у другім квартале 1999 года яна выліла 52 кубаметры, а цераз год - ажно 284 кубаметры, што больш чым у пяць з лішкам разоў, не кажучы пра кошт! Адкуль такія абсурдныя лічбы? Няўжо людзі сталі ўжываць халодную ваду ў гэтым годзе ў пяць разоў болей, чым летась? А мо яны яе выліі на агарод? Давайце палічым разам.

Адзін кубаметр (1 000 літраў) - гэта пяць стандартных двухсотлітровых бочак вады. Атрымліваецца, што сёлета ў другім квартале сям'я выліла 1 420 бочак халоднай вады (284х5=1420). Гэта пры адсутнасці каналізацыі! Няўжо яны яе ўсю выпілі? Калі б штодня вылівалі па 16 бочак (нават без уліку сёлетніх ліўняў), дык паплылі б разам з хатай і агародам далёка-далёка! Хацелася б паглядзець на 60-70-гадовых пенсіянераў-волатаў, гэткіх асілкаў-культурыстаў, здольных перацягаць тоны бясцэннага цяжару. Як вы здагадаліся, паводле падлікаў спецоў з водаканалу, наша сярэднестатыстычная сям'я ў трэцім квартале перавыканала «ўскладзеныя» на яе кволыя плечы спартовыя дасягненні. Яна перацягала ўжо 1 485 бочак (297 кубаметраў)!

Брава, спадары-матэматыкі з водаканалу! Вы пераплюнулі Эўкліда з Лабачэўскім!

## Сакрэты вынаходніцтва

Жыхары з вуліцаў Харужай, Скрыніка ды іншых завулкаў Пярэселкі не маглі пагадзіцца з нахабным рабаўніцтвам і звярнуліся непасрэдна ў абанентны аддзел водаканалу, каб ім растлумачылі: адкуль бяруцца гэтыя вар'яцкія лічбы. Аднак супрацоўніцы з аддзелу не схацелі нічога тлумачыць і рэзка вымавілі: «Вам дано предписание ставить водомер. Иначе мы будем рассчитывать так, как хотим, по пропускной способности трубы! У нас большие потери воды...» Атрымліваецца, у кожнай хаце, дзе няма вадамеру, труба стала адкрытая, і вада ліецца круглыя суткі. Але, куды яна ліецца дзесяткамі кубаметраў, калі няма каналізацыі? Тут мне адразу ўзгадаліся двух-трохметровыя фантаны на стадыёне «Нёман», што некалі цэлую зіму свідравалі марознае паветра, ператвараючыся на заснежаным бардзюры ў забаўныя ледзяшы...

## Піце ваду і закусвайце вадамерам

Не знайшоўшы праўды ў водаканале, зацікаўленыя пенсіянеры звярнуліся ў ВА ЖКГ гарвыканкама, каб у вышэйшай інстанцыі знайсці вырашэнне праблемы. Дзеля справядлівасці зазначу, што там іх сустрэлі больш ветліва. Спадары П.Конеў і В.Ганчароў зразумелі сутнасць справы і пагадзіліся з абсурднасцю вышэйапісаных падлікаў водаканалу. Яны зазначылі, што да іх вельмі часта прыходзяць людзі з падобнага кшталту скаргамі. Таму параілі звярнуцца па тлумачэнні непасрэдна да начальніка абанентнага аддзелу водаканалу спадара В.Шафранскага. Але той пры сустрэчы з наведвальнікамі (не прывітаўся і не прапанаваў нават прысесці) са спакойным выглядам адлучанага будыйскага манаха адно прамовіў: «Ставце вадамер і не будзе праблемаў». Быццам паставіць новы вадамер - усё роўна што замяніць перагарэлую лямпачку.

Дарэчы, тыя, хто паставіў вадамер, кажуць, што каштуе ён недзе даляраў 20. Амаль пенсія! А яшчэ ж трэба заплаціць за ўстаноўку. Не, не водаканалу, бо ён лічыць сваімі толькі трубы на вуліцы, а не ў падвалах і агародах прыватных дамоў. Мабыць, па дыяметру і «пропускной способности» сваіх трубаў і налічвае фантастычныя кубаметры. А калі што, крый Божа, здарыцца з вашымі, дык не прыйдзе на дапамогу, маўляў, тапіцеся, хрэн з вамі! Карацей, спадары пенсіянеры, каб не здохнуць з голаду, піце па шаснаццаць бочак вады ў дзень і закусвайце вадамерам ці проста кавалкам заржавелай трубы...

Цікава, а што думаюць на гэты конт чыноўнікі з уладных структураў?

**Марцін Каламутны**

# КГБ змагаецца з наркабізнесам

Як паведамілі ПАГОНІ ў прэсцэнтры ўпраўлення КГБ па Гарадзенскай вобласці, напрыканцы верасня абласны суд паставіў апошнюю кропку ў крымінальнай справе жыхара горада Гродна Віктара Шпака - не задаволіў ягоную крымінальную скаргу. В.Шпак прызнаны вінаватым у тым, што ў траўні гэтага года набыў 105 грамаў наркатычнага рэчыва - амфітаміна і 13 траўня спрабаваў яго перапрадаць. Але яго заспелі на гарачым каля 4-й бальніцы на вуліцы Янкі Купалы абласнога цэнтра супрацоўнікі мясцовага КГБ. З канфіскаванага амфітаміна можна было прыгатаваць паўтары тысячы дозаў наркотыкаў, якія, паводле звестак ПАГОНІ, маглі прынесці наркадзялкам каля сямі с паловай тысяч даляраў. (Па пяць даляраў за дозу. Трэба адзначыць, што ў нашым горадзе існуюць даволі нізкія кошты на гэтае зелле). Віктар Шпак асуджаны на тры з паловай года пазбаўлення волі.

Цікава, што ў нашай вобласці, нібыта ў нейкай Калумбіі, атрымала распаўсюджанне вырошчванне наркатычных раслінаў дзеля продажу і перапрацоўкі. На прысядзібных участках, а асабліва на схаваных дзялках у лесе, вырошчваюць мак. Так, сумеснай аперацыяй міліцыі і КГБ у Шчучынскім раёне паблізу ад літоўскай мяжы было выяўлена некалькі пасеваў масліčнага мака агульнай плошчай 250 квадратных метраў. Знішчана каля 600 кілаграмаў мака-сырца. Да адказнасці прыцягнуты чатыры чалавекі.

З іншых аператыўных распрацовак КГБ варта адзначыць затрыманне 11 кастрычніка з доказамі злачынства жыхара Слоніма, які спрабаваў прадаць тры з паловай кілаграмы тэтрылу (аналаг трацілу). У ягонай хаце было знойдзена яшчэ 200 грамаў тэтрылу. Звяртае на сябе ўвагу тое, што такія злачынствы, як наркабізнес і гандаль зброяй, становяцца ў нас, на жаль, звычайнымі.

**Сяргей Сноп**

# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14




## ПРАДАЮ

Запчасткі да «Audi-100», запчасткі LT28-40, манітор (14-дзюймовы), АОН «Vef», фотаапараты «Зеніт 21-XS», «Polaroid». Тэл. 73-00-00 (аб.95352).

2-пакаёвую кватэру (2-і паверх) у раёне вуліцы Пушкіна: хатнія рэчы, сценка, кухня, стол, крэсла, канапа, трумо. Тэл. 33-30-98.

Камп'ютар. Тэл. 72-29-96 (акрамя серады і выхадных - з 10.00 да 18.00) ці 44-69-03 (штодзень, пасля 19.00).

Каляску-двойку для двайнятаў. Тэл. 76-39-68.

Тэлевізар «Гарызонт-206». Вельмі танна. Тэл. 2-65-60. Набор мягкай мэблі: два крэслы-ложкі, канапа-ложак. Можна паасобку. Тэл. 76-19-29.

Дробную бульбу.
Тэл. 44-69-03.

Дзіцячую каляску-тройку сіняга колеру, сінтэтыка, б/у, у добрым стане, Кошт - 20 у.а. Тэл. 76-15-54 (у любы час).

Балконныя рамы (1,4х0,7 м), пусказараднае прыстасаванне. Тэл. 44-26-70.

Газавую пліту (б/у, танна) альбо мяняю на складны ровар (б/у). Тэл.47-18-21.

Металічную цяпліцу пад шкло. Тэл. 75-33-55.

Фаеркі, пераключальнікі да электрапліт. Тэл. 74-11-38.

Маю на продаж кнігі па гісторыі ды культуры Беларусі. Тэл. 74-06-76.

Кнігі: В.П.Грыцкевіч «От Немана к берегам Тихого океана», Менск, 1982 г.; В.П.Грыцкевіч «С факелом Гиппократа», Менск, 1987 г.; Э.А.Ляўкоў «Маўклівыя сведкі мінуўшчыны», Менск, 1992 г.; А.Т.Федарук «Садово-парковое искусство Белоруссии», Менск, 1989 г. ды іншыя. Дасылайце замовы на адрас: 246024, г.Гомель, вул.Свярдлова,56 (А.В.Копаць) альбо тэлефануйце на нумар у Гомелі 3-16-39 (пасля 19.00).

## КУПЛЮ

Рухавік да «ВАЗ 2103-06», б/у, які не патрабуе капітальнага рамонту. Тэл. 71-06-18.

Настольную лямпу. Танна. Тэл. прац. 72-37-14, 72-29-96 (з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных, запрасіць Святлану).

Сухую неабрэзную дошку (таўшчыня - 50 мм); пярэднія крылы да «Волгі ГАЗ-24». Тэл. 74-11-38.

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

Старыя піўныя бутэлькі з надпісамі на шкле. Тэл. 75-33-55.

Бензін у любой колькасці. Тэл. 99-49-96.

## МЯНЯЮ

3-пакаёвую кватэру чэшскай планіроўкі на 2-пакаёвую ў цагляным доме ў Ленінскім раёне. Тэл. 31-23-97.

2-пакаёвую кватэру па вуліцы Паповіча на 3-пакаёвую. Тэл. 2-92-08.

## ПАСЛУГІ

Распрацоўка праграмаў, устаноўка Windows ды інш.; рэпетытарства па камп'ютары. Тэл. 74-02-31.

Урокі класічнай ігры на гітары на аснове сціслага вывучэння элементарнай тэорыі музыкі і музычнай гармоніі. Тэл. 72-16-55.

Балконныя рамы (кошт 1 кв.метра - 9 у.а.), дзверы ўваходныя міжпакаёвыя, балконная абшыўка (кошт 1 кв.метра - 6 у.а.); кладзем шведскую падлогу са свайго матэрыялу і матэрыялу замоўцы. Тэл. 74-11-38.

Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтарах. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.

Рэпетытарства па англійскай мове. Дасведчаны высокакваліфікаваны педагог. Тэл. 72-62-79.

Беларуская, расейская, англійская, балгарская, польская мовы: пераклады, індывідуальныя заняткі. Тэл. 2-85-77.

Ангельская мова: афармленне дакументацыі, анкетаў, пераклады. Тэл. 31-15-83 (запрасіць Аляксандра).

Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліцэнзія N1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

Рэпетытарства па ангельскай і нямецкай мовах. Пераклады. Тэл. 6-12-71 (пасля 18.00).

Ангельская мова для ўсіх. Тэл. 76-38-02.

Кладу печы, каміны. Хутка, якасна, надзейна і прыгожа. Тэл. 6-46-32.

Дапамагу ў выкананні задачаў, кантрольных, курсавых і дыпломных работаў па любых будаўнічых канструкцыях, супраціўленню матэрыялаў, тэарэтычнай тэхнічнай ды будаўнічай механіцы. Тэл. 72-16-55.

Рэпетытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

Усё па беларускай, англійскай і лацінскай мовах. Тэл. 33-21-83.

Выраб ксеракопіяў у вялікай колькасці. Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

Набор тэкстаў на камп'ютары, скanaванне, раздрукоўка на матрычным прынтары. Тэл. 76-55-16.

Ангельская мова: пераклады і кантрольныя работы. Хутка і якасна. Тэл. 31-15-83.

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па метадыцы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 30.XII.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

**Доктар С.Каляда**
Інтэнсіўная псіхатэрапія алкагалізму, залішняй вагі. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 (да 18.00). Ліц. N796 па 23 сакавіка 2004 г., МЗ РБ.

Відэаздымка. Якасна, прафесійна выканаем работы па стварэнню відэафільма, відэакліпа, рэкламнага роліка. Ліцэнзія N613, выдадзеная МК да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Звяртацца: 231900, Гарадзенская вобласць, г. Ваўкавыск, а/с 17. Тэл. 2-34-86.

## РОЗНАЕ

Прапішу двух чалавек. Тэл. 6-83-19.

Шукаю працу на прадпрыемстве па рамонту і зборцы мэблі. Тэл. 44-39-15.

Здаю пакой на суткі. Тэл. 72-07-40.

Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванні падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41.

Здыму 1-пакаёвую кватэру з тэлефонам і мэбляй на адзін месяц. Тэл. 5-33-58 (запрасіць Святлану).

Шукаю працу на прадпрыемстве па абіўцы мяккай мэблі, па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

Ахвотныя атрымаць кнігу Міколы Ермаловіча «Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае» дашліце замову, свой паштовы адрас і 2300 рублёў на адрас: 220131, Менск-131, п/с 268, Алесю Міхайлавічу Сабаленку. Кнігу атрымаеце праз пошту. У Менску кнігу Міколы Ермаловіча можна набыць у сядзібе ТБМ, што месціцца ў Менску па вуліцы Румянцава,13. Тэл. 284-85-11.

Шукаю працу бухгалтара на прадпрыемстве. Досвед працы - 7 гадоў, маю вышэйшую адукацыю, умею працаваць на камп'ютары. Тэл. 91-93-68 (з 9.00 да 12.00).

Ручное вязанне. Тэл. 72-58-94.

Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні, альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прыходзіць у рэдакцыю з купонам аб'явы і сваім пашпартам. Гэта дасць усе падставы меркаваць, што абвесткі накont знаёмстваў належаць менавіта вам, паважаныя чытачы, а не тым, хто жадае з вас пажартаваць.

## ЗНАЁМСТВЫ

Пазнаёмлюся з прыстойным мужчынам да 30 гадоў для сур'ёзных адносінаў. Пра сябе: 22/165, без шкодных звычак. Пісаць: 230019, г.Гродна, да запатрабавання, прад'яўніцы пашпарта N5735508.

Пазнаёмлюся з беларускамоўнай дзяўчынай (ад 17 да 21 года) для сяброўства і не толькі. Пра сябе: 24/170/65, маю вышэйшую адукацыю, без шкодных звычак. Пісаць: 211440, Віцебская вобласць, г.Наваполацк-11, а/с 17.

Пазнаёмлюся з адзінокім прыстойным мужчынам для сур'ёзных адносінаў. Пра сябе: 39/158, разведзеная, выхоўваю дваіх дзяцей. Пісаць: 230023, г.Гродна-23, а/с 201.

Закаранелы нацыяналіст, 25/164/54, пазнаёміцца з кансерватыўнай пяшчотнай дзяўчынай да 20 гадоў для сур'ёзных адносінаў. Пішыце на адрас: 246008, г.Гомель-8, а/с 9,

## ВІНШАВАННІ

Шаноўны *Аўдзей Франц Браніслававіч!* Віншуем Вас з Днём нараджэння! Жадаем Вам моцнага здароўя, маладзецкага запалу, ажыццяўлення мараў і спадзяванняў, згоды і паразумення з усімі, сямейнага шчасця, натхнення і вялікага накладу!

**Супрацоўнікі ПАГОНІ**







**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

39 Імя і прозвішча ____________________

Адрас (тэлефон) ____________________

Рубрыка ____________________

Тэкст ____________________

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11

# Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». **Новы замак.** Авальная зала. Выстава «Паэтыка скуры і металу» (творы ўмельцаў Беларускага саюза майстроў народнай творчасці). Сенатарская зала. Дзейнічае экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў».

**Галерэя «У Майстра» (вул. Кірава, 14).** Выстава фотамастака Юрыя Палуцкага пад назвай «Прыадкрыццё сябе».

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Фотавыстава Георгія Гулеўскага пад назвай «Макракосмас».

**Музей Гісторыі Гарадніцы (вул. Ажэшкі, 37).** Персанальная выстава каваных вырабаў Юрыя Круша.

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вул. Ажэшкі, 39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Гарадзенскі Дом афіцэраў.** 24 кастрычніка - Еўраліга міжнароднага саюза КВД прадстаўляе зборную каманду КВД Рэспублікі Беларусь «Беларускі вакзал». Кошт білета - 2000 рублёў. Пачатак у 18.00.

**Гарадзенская абласная філармонія.** 25 кастрычніка - канцэрт сучаснай і папулярнай музыкі. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор - магістр музыкі Васіль Прадун. Пачатак у 19.00.

З 24 па 28 кастрычніка - дэманстрацыя фільма «Ісус» у кінатэатрах горада, а таксама - у канцэртнай зале «Гродна». Сеансы - у 11.00 і 19.00. Уваход свабодны.

**Моладзевыя дыскатэкі**

**Начны клуб «Клетка»** - з 21.00 да 06.00 (чацвер - нядзеля).

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00, працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**Калізей-2000.** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальны і стрыпцыз-шоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

Газета ПАГОНЯ
Запрашае на працу *пенсіянераў, студэнтаў, школьнікаў і часова непрацуючых - для распаўсюджвання нашай газеты!*
*Тэл. 72-37-14, 72-29-96*

